

* * *

З'явіся, дзень, пачаткам новым,
Маладзіковай светлынёй,
Каб кожным выдыхам і словам
Быў я заручаны з табой.

Як немаўля ў час нараджэння,
Хачу на свет я паглядзець,
Прайсці праз пекла ачышчэння,
Сябе самога зразумець.

* * *

Дзе мая воля?
У бацькавым полі,
Там, дзе хвалюецца лён на прыволлі,
Дзе абдымаецца жыта з вятрамі...
Дзе мая доля?
Там, за гадамі,
Што адзвінелі на веснах разлогах...
Белыя веі пяюць ля парога.

## Успамін

Прымаразак ранні лёгкі іней
На раллю стамлёную паклаў,
Серабрысты клён ля студні стыне.
Спачывае вёсачка ад спраў.
Пахне спелым сенам каля хаты,
Яблыкамі ўсыпаны мурог.
І, яшчэ жывыя, маці з татам
Сына ў свет праводзяць за парог.

## Гаворыць маці

Гаворыць маці. Колькі чысціні
У матчыным жывым і простым слове!..
Яна — крыніца вечнай дабрыні,
Маёй надзеі, веры і любові.
Апошняя крыніца!..
Без яе
Як жыць на белым свеце?
Не ўяўляю...
Гаворыць маці — і душа пяе,
І я ля маці сэрцам спачываю.

* * *

Матулін клён пад снегам стыне
На бацькавым двары...
Не грэе скроні першы іней —
Жыццё сваё бярэ.

Былая жарсць! Ты не са мною,
Патухла назаўжды,
І зараслі зыбун-травою
Ў маёвы сад сляды.
Але пакуль душа спявае,
Я прагну навізны,
Як матчын клён, які чакае
Сярод завей вясны.

* * *

На асфальце тлум і шум,
Драмы...
Адмалі маю душу,
Мама,—
У чужога, усяго
Злога.
Адмалі дзеля свайго
Бога.
Ты — апошні абярог
Хаты,
Дзе чысцей нябёс парог
Таты...
Ні аб чым не папрашу
Болей...
Адмалі маю душу
Ў болю.

* * *

Прыначлежыўся ў бацькавай хаце
І пачуў праз дрымоту папрок:
«Ты пачаў забываць песні маці,
Не забудзь шлях дадому, сынок».
Я прачнуўся, і постаць матулі
Ахінулася цемрай густой,
Толькі чулася дзесь: «Люлі-люлі,
Спі, мой буслік, спі, родненькі мой».

## Санет маці

Матуля, колькі весняга святла
Тваё імя святое навявае!..
Ты для палёту крылы мне дала,
Таму душа так хораша спявае.

Век немалы па-людску пражыла.
Цябе ўжо праўнук весела гукае.
Хай не спаткае ён людскога зла,
Аб каранях сваіх не забывае.

Як свята, стрэча кожная з табой,
Вядзе тады душа з тваёй душой
Адным нам зразумелую бяседу.

Я напісаў багата розных кніг,
Ды без вачэй і цёплых рук тваіх
Я б хараства зямлі сваёй не зведаў.

* * *

Нешта маці мне доўга не сніцца,
Можа, часам хварэе старая?..
Кожны вечар званю са сталіцы,
Толькі вёска маўчыць, як нямая.

Граюць тут навагоднія ёлкі
Феерверкам святочных вясёлак,
Ну а там вецер шабельна-колкі
Замятае снягамі прасёлак.

Быццам Богам праклятая зона,
Вёска моўчкі нягоды выносіць,
Пэўна, зноў трэці тыдзень з раёна
Аўталаўка ёй хлеб не прывозіць.

Не пазбыўшыся продкаў навукі,
Маці боханы з печы дастане.
Уздыхне: «Паспыталі б унукі,
Ды яны, як і сын,— гараджане».

А калі на двары звечарэе,
Будзе зноў тэлефону вініцца:
«Нарабіла нам бедаў завея,
Не дазвоніцца сын са сталіцы».

# Ліст ад маці

Мёртвыя раскрываюць вочы жывым.

*Прымаўка*

«Сыночак, паглядзі на свет,—
Як многа сонца ў зім і лет!
З адкрытым сэрцам да людзей
Ідзі, дабра насенне сей.
І не лічы свае гады,
Пакуль душою малады.
А я старэю, мой сынок.
Слабею — вочы засціць змрок...»
Святло пажоўклага ліста —
Святая маці слепата.

* * *

Позняя восень у Мінску.
Поўнач. Апошні трамвай...
Трызніцца вёска-калыска.
Яблычны спасавы рай.
Цёплага хлеба акрайчык.
Ласка матуліных слоў...
Эх, калі б гэты трамвайчык
Бег са сталіцы дамоў!

## Недзе там...

Недзе там, за вейнымі снягамі,
За грыбнымі, спеўнымі дажджамі,
З далечы, зашклёнай цішынёй,
Чую голас маці: «Родны мой...»

## Маці

Аб чым пісаць? Каго кахаць?
Усё было. Усё ў мінулым.
Вясёлых вёснаў не дагнаць.
Жыццё маланкай прамільгнула.

Ды на парозе нематы,
Там, дзе ні пекла, ані раю,
Твой вобраз бачыцца святы,
Ён, толькі ён мяне трымае.

## Свет звузіўся...

У роднай вёсцы ціш і немата.
Каля хацін пакінутых блукаю.
Нібыта сябра даўняга, ката
Я да грудзей пяшчотна прыціскаю.

Свет звузіўся да сцежкі палявой,
Што прырасла да бацькавай магілы,
Да той іконкі сціплай, пад якой
Мяне ў дарогу маці благаславіла.
Свет звузіўся...

## Пасля

Як жылі мы на белым свеце?..
Ціха скажуць пра гэта дзеці.
А якія былі ў нас рукі? —
Гучна скажуць пра гэта ўнукі.

* * *

Калі навокал ноч глухая
І толькі зорачка адна
Бязмоўна з сэрцам размаўляе,—
Не сплю да самага відна.
Міжволі мне тады здаецца:
Сярод сусветнай цішыні
Не зорка — роднае мне сэрца
Шле прывітанне з вышыні.

* * *

Мои года — мое богатство...
*Роберт Раждзественскі*

Дзён маіх астывае касцёр.
Дзе ранейшыя ўзнёсласць і сіла?
Я твой кемлівы вучань, жыццё,
Пэўна, кепска мяне ты вучыла.
Долу гне скарб пражытых гадоў...
І навошта мне гэта багацце,
Калі родных не бачу слядоў
На халодным і брудным асфальце?

* * *

Аб неўтаймоўнай радасці жыцця
Спяваюць вусны весняга лісця.
А восень гэткай радасці не знае
І нам лісцё пад ногі атрасае.

* * *

Сентыментаў даволі...
Толькі як апраўдацца,
Калі сэрца міжволі
Просіць паспавядацца
Перад сумнай рабінай,
Што чакае кагосьці,
Як аблуднага сына
Маці хворая ў госці.
Прытулюся да дрэва
Пасля тлумнай дарогі,
Ягад спелых залева
Мне пральецца пад ногі.
Пастаю ля рабіны
Я часінай асенняй...
За аблуднага сына
Папрашу прабачэння.

* * *

Як хутка жыццё пралятае,
Як мала ў ім сонечных дзён!..
Дзён шэрых драпежная зграя
Бярэ маё сэрца ў палон.

Шукаю ад іх я збавення
Ва ўсмешцы жанчыны маёй,
У слове, што поіць натхненне
Крынічнай жывой светлынёй.

У вечнай трывозе матулі:
«Сыночак, сябе беражы...»
Дні шэрыя раняць, як кулі,
Ад сонечных — спеўна душы.

## Свята дажджу

Сярод натоўпу я самотны,
Там слоў праўдзівых не чуваць,
І часам з хмаркай пералётнай
Нашмат лягчэй мне размаўляць.

З ёй гавару, амаль бязмоўны,
Калі гняце туга душу,
На мове музыкі чароўнай,—
Нябеснай музыкі дажджу.

У кронах ліпавых, кляновых
Цымбалы дзіўныя гучаць...
Дзе ж тыя фарбы, гукі, словы,
Каб гэта свята перадаць?..

* * *

У майскім садзе салавей
Рамансы звонкія выводзіць...
Я ад людзей усё далей
І ўсё радней жывой прыродзе.
Належыць ёй душа мая...
Абсыпаны вішнёвым кветам,
Аднойчы сам зліюся я
З чароўнай музыкай Сусвету.

* * *

І зноў глядзіць заморскі госць
На нашы землі прагавіта...
Ёсць у мяне Радзіма, ёсць,
Дзе да нябёс бушуе жыта.

Тут на світанні жаўрукі
На працу сейбітаў гукаюць,
Паэты лепшыя радкі
Сваім каханым прысвячаюць.

Тут кожны бор — вячысты храм,
Дзе чуеш лепш чужое сэрца...
Таму кажу, панове, вам:
«Мая зямля не прадаецца!»

## Паэты

Ах, як пахнуць лугі за Воршаю!
Ах, які ў салаўя зачын...

*Алесь Пісьмянкоў*

А сканаю — паэт прыйдзе...

*Анатоль Сыс*

Хто там злева? Хто справа?
Не відаць, не чуваць...
Я не маю больш права
Дні свае марнаваць,
Бо гучаць, як замова,
Студзяць боль, як раса,
Светлы спеў Пісьмянкова,
Плач празорцы — Сыса.

* * *

Я мог бы стаць святлей
За ранішні прамень,
Але маны ялей
Мяне гняце штодзень.

Я мог бы стаць дабрэй
Да часу, дзе жыву,
Ды чорны сухавей
Спаліў маю траву.

Ад попелу надзей
Да воблачных руін,
Плыву ад вас далей —
Адзін, заўжды адзін.

* * *

Забыць былое немагчыма,
Але ж яно вядзе назад!..
Усё выразней прад вачыма
Гадоў наступных далягляд.

Туды я думкамі цягнуся.
Але за часам-хадаком
Не паспяваю...
Спатыкнуся.
І падымуся каласком.

Адзін сярод пустога поля,
Паміж наступным і былым,
Ён будзе песні пець аб волі
Усім пакутнікам зямным.

## Роздум сейбіта

Адкуль, зямля, бярэш ты сілы,
Каб іх насенню перадаць?..
Вунь каласы пад небасхілам
Аб гэтым велічна шумяць,
Ды мне да самае магілы,
Відаць, не дадзена пазнаць:
Адкуль, зямля, бярэш ты сілы,
Каб іх насенню перадаць?

* * *

Дзядулі словы... Іх не сцерці
Няўмольным часам, забыццём...
«Прасіў я ў Бога лёгкай смерці,
А ён даў доўгае жыццё».

Пражыў і я гадоў замнога
І аднаго магу жадаць:
«Дай, Божа, скону мне такога,
Каб аб жыцці не шкадаваць!»

* * *

Пераступіўшы сталасці парог,
Пражытага старонкі зноў гартаю.
Я пасталеў на тысячу дарог,
Радзей знаходжу і часцей губляю.

Гудуць стагоддзя новага вятры.
І на мільён праблем няма адказу...
Усё ў былым: каханыя, сябры...
Я зноў адзін на раздарожжы часу.

* * *

Жыву, пакутую, люблю,
Малюся коласу і Богу,
З трывог і радасцей ляплю
Днём і ўначы сябе самога.

Жадаю зазірнуць у век,
Які пражыць не давядзецца...
І ўсё ж я проста чалавек,
Гляджу на свет вачыма сэрца.

* * *

Поўня. Поле. Жыта.
Згода. Супакой.
Свет душы адкрыты —
Кут бацькоўскі мой.

На дабро багаты,
Хлебны і грыбны...
Сняць бабулькі-хаты
Маладыя сны.

Толькі мне не спіцца
У палоне кроз,
Сэрца прагне зліцца
З мроямі бяроз.

Ды гадоў пражытых
Быццам не было,
І жыву нібыта,
А жыццё прайшло.

* * *

Дай мне, Божухна, долі,
Неспатольнасці ў працы,
Каб з будзённай няволі
Змог да зор я падняцца.

Разбудзі маё сэрца,
Што ад крыўд скамянела,
Каб яно звонкім скерца
Над зямлёй зазвінела.

Дай мне, Божухна, вушы,
Каб не чуць звад і спрэчак...
Продкаў чыстыя душы
Запрашаюць на веча.

Шчэ вярні тыя вочы,
Ясны зрок сакаліны,
Каб завейнаю ноччу
Не згубіў я сцяжыны.

Той сцяжыны да веры,
Да драўлянага храма,
Дзе, як зорка Венера,
Свеціць вобраз твой, мама.

* * *

Мне з памяці не сцерці
Тых, хто ў нябыт пайшоў...
Вучуся жыць у смерці
Каля сівых крыжоў.

А паміраць вучуся
Я ў мудрага жыцця...
Мо зноў на свет з'яўлюся
Аднойчы з небыцця?

З усмешкаю дзіцяці,
З русявым каласком,
З прачулай песняй маці,
З прасветленым радком.

## Хто там...

Хто там жыве, дзе я калісьці жыў,
Дзе верыў, спадзяваўся і любіў?
Хто там, маіх не бачачы слядоў,
Ідзе за мной па прыступках гадоў?
Нашчадак?
Вучань?
Што шукае ён?
Багацце?
Славу?
Вечнасць?
Ціхі скон?

* * *

На развітальным віражы
Я згасну ў бездані занебнай...
Паклапаціцца аб душы —
Усё, што мне цяпер патрэбна.

Ад брудных дзей і мітусні
Я зберагу, пакуль жывую,
Загартаваную ў агні,
Душу — пакутніцу зямную.

З ёй не дазволю жартаваць
Тым, хто цаны не знае слову,
Душа павінна аддаваць,
Нібы пчала, нектар ліпнёвы.

Не аб стэрыльнасці сваёй
Ёй неабходна клапаціцца,
Душа павінна быць жывой —
Жывое цвілі не баіцца.

## Каплічка

З Бога не насмяешся.

*Надпіс на каплічцы ля Ракава*

Стаіць ля Ракава каплічка,
Паданні тоячы свае,
У ёй гасцінная крынічка
Аб вечным роздумна пяе.

Калі, натомлены дарогай,
Абмыю твар жывой вадой,
Здаецца, чую голас: «З Бога
Не насмяешся, сыне мой».

Душой зліваюся з крынічкай
І спачываю ў цішыні...
Стаіць ля Ракава каплічка —
Прытулак боскай чысціні.

* * *

Грымотных вякоў раздарожжа,
Мяжа небыцця і быцця...
З нас кожны часовы прахожы
На дрогкай дарозе жыцця.

Таму не хачу мітусіцца,
Выпрошваць у часу выгод...
Паспець бы раллі пакланіцца,
Аддзячыць за хлеб і за пот.

* * *

Тут мяне амаль ніхто не помніць.
Спяць вяскоўцы ў суглінкавым сне...
Добры шпак, пусці ў сваю шпакоўню,
Ты апошні родзіч у мяне.

Раскажу табе, нібыта брату,
Як жылося гэтыя гады...

У цябе, напэўна, птушаняты?
Цеснавата, кажаш?
Не бяды!

Дабрату тваю я, братка, помню!
Навяду закінуты варштат —
І змайструю новую шпакоўню
Для тваіх шчаслівых птушанят.

## Старая хата

Палын вышэй гнілога плоту.
Туга каліны...
Вартуе вецер адзіноту
Пустой хаціны.
Гулі ў ёй некалі вяселлі,
Радзіны гралі...
Сыны і дочкі адляцелі,
Бацькі ж чакалі
Сваіх дзяцей здалёк у госці,
Аралі, жалі...
Спяць пад крыжамі на пагосце
Цімох і Галя.
Глядзіць старэнькая хаціна
На шлях за гаем,
Глядзіць асляплымі вачыма,
Дзяцей чакае.

* * *

Жыццё і смерць заўсёды поруч,
Як дзве сястрыцы-спарышы,
У іх пакут і стратаў горыч
І спаталенне для душы.
Малое радуецца сонцу.
«Бывайце...» — выдыхнуў стары...
Век не парваць ланцуг бясконцы
Жыцця і смерці...
Дык дары ж
Жывым сваё цяпло — да донца,
Перш чым забыцца вечным сном,
Каб заручыць па волі Творцы
Свой першы дзень з апошнім днём.

* * *

Маўклівы суразмоўца мой, Максім,
Я да цябе звяртаюся душою,
І ў час нялёгкі раюся з табою,
З такім узнёслым, светлым і зямным.

Пакінуў томік вершаў ты жывым,
Перш чым забраны быў чужой зямлёю,
Я размаўляю з ліраю тваёю,
З тваім радком прачула-трапяткім.

Па Беларусі тужыць Вераніка,
Пяшчотная, як вербная галінка,
Аблашчаная ранняю вясной.

Калі «Вянка» старонкі я гартаю,
Сябе самога ў часе спасцігаю.
Я шчыры і адданы вучань твой.

* * *

Свабоду па закону не даюць.
Яна павінна быць у кожным зроду,
Як ствол у дужай кроне радаводу,
Інакш яе ўсё роўна адбяруць.

Наш час — падзей трывожных каламуць,
Дух фарысейства паланіў народы,
Нашчадкаў сакалінае пароды
На плаху служкі д'ябла зноў вядуць.

Як разбудзіць ад сну глухія душы,
Якіх сцюдзёны вецер часу душыць,
Дзе тыя цуда-словы адшукаць,

Што ўсіх бяскрылых верай акрылілі б,
Слабых — магутным духам наталілі,
Каб кожны свету мог сваё сказаць.

## Памяць

Не мае памяць межаў і граніц,
Яна пульсуе ў кожным радаводзе.
Да ўсіх зямных пагостаў і званіц
Мы на спатканне з памяццю прыходзім.

Перад магілай бацькі тварам ніц
Укленчу. Павінюся пры народзе:
«Сасмяг я, тата, без тваіх крыніц,
Бо ўсё рабіў насуперак прыродзе.

Адпусціць мне твая зямля грахі.
Ды як вярнуць ёй даўнія даўгі?
І чым запоўніць памяці правалы?..»

Вяртаюся душой да каранёў,
Да той начной мелодыі без слоў,
Што над калыскай маці мне спявала.

* * *

Сярод марозных зор бялее
На небе зорачка адна,
Нібыта летняя лілея,
Душу высвечвае...
Да дна!

Я прысвяціў ёй верш пяшчотны,
Жадаю з ёй пагаварыць,
Ды голас мой, такі самотны,
Туды, відаць, не даляціць.

Ён да нябёсаў узнясецца
Апошнім выдыхам «люблю»
І звонкім рэхам разаб'ецца
Аб скамянелую зямлю...

* * *

Шкада мне зорак, што згасаюць
У промнях славы спакваля,
Яны цяпла не пакідаюць,
Калі прымае іх зямля.

Мясціны тыя зарастаюць
Хмызамі чорнага быльля...
Шкада мне зорак, што згасаюць
У промнях славы спакваля.

## Чытаю вершы

Чытаю веснавыя вершы
Сваіх равеснікаў сівых,
Вядома, я зусім не першы
І не апошні сярод іх.
Гартаю лёсы. Асцярожна,
Каб не парушыць строі слоў...
Як быццам я — чытач апошні
Жыццём навеяных радкоў.

* * *

Ноч у душы і ў свеце.
Ні зорачкі ўгары.
Ваўком галодным вецер
Скавыча на двары.

Здаецца, дапамогі
Ён просіць пад акном,
Аблізвае парогі
Завейным языком.

Але ці толькі вецер
Патрэбна шкадаваць?..
Ноч у душы. І ў свеце
Прасветаў не відаць.

* * *

Я аднойчы адгэтуль паеду
І згублюся ў сутонні завей,
Не пакіну ніякага следу
На сухой вераснёўскай траве.

Я аднойчы адгэтуль паеду,
Не суцешыўшы маці сваёй,
І вясковыя клопаты-беды
Не вазьму я ў дарогу з сабой.

Я аднойчы адгэтуль паеду...
У сталічнай кватэрцы начной
Буду Блоку маліцца і Фету,
А не матчынай песні жывой.

Я аднойчы адгэтуль паеду...
Буду вольна і праведна жыць...
І чаму ж гэта памяць па следу,
Як жабрачка, за мною бяжыць?

## Пакінуты

Зорка долі сыходзіць на скон.
Трэці месяц маўчыць тэлефон.

Ні гасцей, ні лістоў ад сяброў.
Скавытанне завейных вятроў.

І пажоўклае фота дзяцей
Больш не грэе старэчых надзей.

Час усё за сабою прыбраць
І апошнюю госцю чакаць.

* * *

Косіць месяц атаву ўгары,
Атрасаючы зорныя росы...
Пацішэлі мае вечары,
Ды вышэйшымі сталі нябёсы.

Пэўна, спеласці час надышоў,—
Слова кожнае ўзважыць імкнуся.
Не шкада мне былых вечароў,
Стрэць наступныя я не баюся.

І пакуль не патухла ў душы
Пачуццё чалавечай любові,
Пажадаю вам гэткай цішы,
Каб нябеснае чулася ў слове.

* * *

То губляем сябе, то знаходзім,
Нам чагосьці ўвесь час не стае...
Толькі раз на зямлю мы прыходзім,
Толькі раз пакідаем яе.

Вось чаму цеплыню свайго сэрца
Я імкнуся да донца аддаць...
Нас не будзе, жыццё застанецца,
Для жывых будуць птушкі спяваць.

* * *

Каля разлапістай сасны
Пасля будзённых спраў
Збіраю я грыбныя сны,
Паданні мудрых траў.
Чабору цёплае святло,
Сунічны пах вятроў...
І ўсё, што згасла, адцвіло,
Хвалюе сэрца зноў.

## Бялынічы

Бялынічы, Бялынічы —
Святлынь гаёў бярозавых,
Для чыстых душ раскрылены
Іх весніцы буслiныя.

Бялынічы, Бялынічы...
Начных дажджоў сімфоніі,
Друці журба вярбовая
Сярод лугоў някошаных.

Бялынічы, Бялынічы,
Валошак сінь цнатлівая,
Юнацтва незваротнага
Пяшчота жураўліная.

* * *

Там, дзе аплёўваюць святыні,
Якім маліліся заўжды,
Зямля падобна да пустыні,
Дзе не знайсці глытка вады.

Там чалавек, які стварае
Нашчадкам лепшае жыццё,
Яго наяве разбурае
І сам знікае ў небыццё.

## Лёс

Любіў пажыць уволю
І не адну кахаў,
Знаходзіў шмат, ды болей
Часцей за ўсё губляў.

Для выгады хвілiннай
Сяброў не шкадаваў,

Адданаю жанчынай,
Як цацкай, жангляваў.

Меў талент, ды ў дарозе
Ты і яго згубіў...
І старасць на парозе,
А ты нібы не жыў.

Ноч. Бессані маркота.
Вар'яцтва салаўя...
Хто там? Я — адзінота —
Абранніца твая.

* * *

Паўночнай часінай, бы ў казачным сне,
Начны матылёк завітаў да мяне.

Прывабіла госця ад лямпы святло
Ці, можа, прагнала пачварнае зло?

А мо матылёк — майго продка душа,
Што зараз шукае сабе спарыша?

Начны матылёк, мы з табою браты,
Бо я гэтаксама самотны, як ты.

Застанься ў мяне. Апякла, як агонь,
Таемнасць начнога візіту твайго.

* * *

Будзіць у людзях чалавечнасць
Не гучным словам — дабратой...
Імкнуся ў час падставіць плечы
Тым, хто падсечаны бядой.
Бо ўдвух лягчэй праз дні і ночы
Нягоды ўсе перамагчы...
Хто зведаў гора хоць аднойчы,—
Услых аб гэтым не крычыць...

* * *

Палявая сумная дарога
На пагост знаёмы прывяла,
Не патрэбна мне цяпер нічога,
Акрамя кляновага святла.

Дзесь вятры свінцовыя гуляюць,
Гінуць людзі і ліецца кроў...
Хай мяне ад зла аберагаюць
Залатыя душы землякоў.

* * *

Мая валошка палявая,
Я рады — ты яшчэ жывая!
Без мэты люд кудысьці пнецца
І, можа, заўтра не прачнецца...
Канае д'яблава стагоддзе.
Мяжа...

І сэрцы моляць: «Годзе
Знішчаць пад выглядам стварэння,
Крывёй змываць памылкі ценяў!»
І я жыву, пакуль жывая
Мая валошка палявая.

## Літара

Літара — вечнасці знак,
Чорная зорка Сусвету,
Хто цябе выдумаў?
                    Як
Выказаць сэнс твой паэту?

Ты прада мной, як мяжа
Тайны няўлоўнага часу...
Ісціны прагне душа,
Ды не знаходзіць адказу.

## * * *

Кажуць, усё можна прадаць:
Дарагія рэчы, рэдкія карціны і кнігі
Старых сяброў, каханне
І нават сумленне.
Мо яно і так?
                    Але, прадаўшы сумленне,
Я зраблюся жабраком
І ўжо нічога не змагу набыць
Для сваёй душы.

* * *

Я заручуся з гоманам вятроў,
Я адбялю душу сваю снягамі,
Пачую неба ў музыцы дажджоў...
І загучу чароўнымі радкамі.

## Прыгажосць

Я — Прыгажосць. Мяне паэты
На крылах песень узнялі,
Ды толькі грошы правяць светам
І зло пануе на зямлі.

Я — Прыгажосць. Гляджу з іконы
Вачмі Пакутніцы святой,
Ды ў тлуме клопатаў штодзённым
Не чуе людства голае мой.

* * *

Нябёсаў ранішніх лагода
Лье ў сэрца вечнае святло...
Якая ціш, якая згода
З тым, што было і адышло!

Бы не гуляе ў свеце ліха
І дзеці ў зыбках мірна спяць...
Якое шчасце — вольна дыхаць,
Сябе жывым усведамляць!

* * *

Амаль да мая снег ляжаў,
Вятрыска ў полі гойсаў віжам,
І бусел над сялом кружляў
Самотным крыжам.
То быў людзя́м папрок за грэх,
За ліпу, што гняздо люляла...
Ляжаў амаль да мая снег,—
Прырода птаху спачувала.

## Храм

Я збудаваў свой храм са слоў прыгожых,
Нібы з цаглін, апаленых агнём...
Было ў тым храме вусцішна і гожа
Завейнай ноччу, навальнічным днём.

Свае пачуцці, мары і памкненні
За сцены храма я не адпускаў,
А слухаў толькі музыку натхнення,
На мітусню ж увагі не звяртаў.

Але аднойчы ноччу Шляхам Млечным
Сышоў, як прывід, старац да мяне.
«Твой храм — турма, а ты ў ім —
вязень вечны»,—
Пачуў я ціхі голас, як у сне.

«Зямлі ты зрокся, чалавеча мілы,
Не чуеш стогнаў гоняў і бароў.
Каму касіць? Каму араць? З магілаў
Ты не падымеш песняй плугароў».

Быў гэты вырак, як пад сэрца ножык,
Як перуновы стрэл сярод зімы...
Я зруйнаваў свой храм са слоў прыгожых
І абрабіў пад жыта дол нямы.

Рунець яму ціхмяным днём асеннім,
Шаптацца жыту з ветрам веснавым...
Мае ж пачуцці, мроі і памкненні
Над ім паплачуць дождажыкам жывым.

* * *

Праз мёртвы асфальт на світанні
Прабіўся праменьчык травы...
Вучуся ў прыроды трыванню,
Цярпенню...
Таму і жывы!

## Дома

Патухла сонца. Дзень асенні
Пайшоў на вечны супакой.
І зноў, нібы пасля стварэння,
Спавіта неба цішынёй.

Такая ціш — не варухнецца
Лісток на матчынай вярбе...
Як добра слухаць сваё сэрца
І адчуваць жывым сябе.

* * *

У пошуку ўяўнай свабоды,
Багацця і славы пустой
Як шмат нарабілі мы шкоды
Адвечнай прыродзе жывой.

Яна нас карае за гэта
І ў новым стагоддзі радзей
На свет нараджае паэтаў,
Хто словам бароніць людзей.

* * *

Ёсць музыка вятроў,
Якой ніхто не чуе,
На мову простых слоў
Яе перакладу я.

Маёвы ліставей,—
Пачуцці маладыя.
Сцюдзёны снегавей
Ваўком у полі вые.

Арганны, баравы,
Душу лагодзіць вецер,
Ды ветрык палявы
Мілей за ўсіх на свеце.

Над снамі каласоў
Ён вее на світанні...
І непатрэбна слоў,
Каб выказаць жаданні.

* * *

Буду я спяваць, пакуль пяецца,
Застануся ў песнях маладым,
Кожны гук я вывяраю сэрцам —
Самым верным цэнзарам маім.

* * *

Бяроз мядзвяная лістота
Расстайнай поўная тугі.
Гурты буслоў перад адлётам
Палёў абходзяць берагі.

Услед за выраем буслiным
Лісцвяны вырай паляціць.
І над прасторамі Айчыны
Азызлы дождж зашамаціць.

Ды перад тым, як развітацца
З пейзажам звыклым да вясны,
Зноў не магу налюбавацца
З яго чароўнай навізны.

Непараўнальная карціна,
У ёй нятленны дух жыцця,
Што зліўся з одумам буслiным,
З журлівым пошаптам лісця.

* * *

Восень. Гусі адлятаюць
У краіну летніх кроз,
На пагосце дагараюць
Свечкі зябкія бяроз.

Толькі ягады каліны
Свецяць даўняй цеплынёй
Над магілаю жанчыны,
Што памерла маладой.

Аднаго яна кахала,
Вернай жонкаю была...
Кажуць, мужа пахавала
І сама ў труну лягла.

Сціплым помнікам жанчыне
Крыж драўляны паўстае,
Ды сінічка на каліне
Песні сумныя пяе.

* * *

Зноў смута блукае па свеце,
Ліецца нявінная кроў...
Як хутка дарослеюць дзеці
Ля трунаў памерлых бацькоў.

І ўсё ж па мінулым не плачу,
У Бога адно папрашу:
Празрыстай слязінкай дзіцячай
Ачысціць ад гневу душу.

* * *

Пасеяна д'яблам распаду насенне,
Гудзе, нібы мора, народаў сям'я...
Ды ёсць на зямлі для мяне, як збавенне,
Радзіма, Радзіна, Рабіна мая.

Там жыта з вятрамі гуляе-гамоніць,
Там сонца купаецца ў росных гаях.
Як сына, мяне там чакае і помніць
Радзіма, Радзіна, Рабіна мая.

Калі ж давядзецца, знямогламу, ўпасці,
Калі адгару да крывіначкі я,
Няхай закалыша мой сон, быццам маці,
Радзіма, Радзіна, Рабіна мая.

## Вясновае

Мала робім і часцей гаворым
Там, дзе продак думаў ледзь не век...
Не знайшоўшы на зямлі апоры,
Сам сябе губляе чалавек.

Не насенне сее ён, а словы,
Знерваваны тлумнай мітуснёй...
Абапруся зноў на плуг сталёвы,
Каб не страціць сувязі з зямлёй.

* * *

Святло і цемра. Дабрата і зло.
Няма між імі век паразумення.
Ды поле быльнягом не зарасло,
Дзе я пасеяў хлебнае насенне.

Яно хвалістым жытам узрасло,
Што моцна парадніла пакаленні...
Зямлі дзядоў радзіннае цяпло
Жыццё мае сілкуе і натхненне.

Шкада мне тых, хто страціў карані
І ў набыцці марнуе свае дні.
Без дабрыні, без веры і надзеі.

Я ведаю, настане гэткі дзень,
Які заручыць згодаю людзей,
І зло і цемру ў душах ён развее.

## Чарнобыльская вёска

Пакінутыя родзічамі хаты.
Амаль да каміноў парос палын.
Тут не чакаюць госцейкаў на свята
І не чуваць вяселляў і радзін.

Буслянкі не люляюць буслянятак,
І звёўся хлебаробскі род на клін.
Здзічэлы кот у роспачы зацятай
Крычыць, нібы пытае: «Чый ты сын?»

Заходжу ў хату дзядзькі, бы ў цямніцу,
Пакутна стогнуць пада мной масніцы.
Пакрыўся пылам на куце абрус.

...І надышла чарнобыльская эра:
Цень фантастычны жудаснага звера
Лёг на краіну з назвай Беларусь.

* * *

Пад сяброўскаю праведнай маскай
Не разгледзеў зласліўца...
І вось
Я сумую па матчыных казках,
Не хапае без іх мне чагось.

Пэўна, той часціні першароднай,
Што сыходзіць з крынічак зямных,
З кожнай песні, па зместу народнай,
Маладзее душа ад якіх.

Загаю боль матулінай казкай,
Пагасцюю ў дзяцінстве былым...
Назаўжды развітаюся з «маскай»,
З тым, хто сябрам лічыўся маім.

* * *

Згасаюць людзі, быццам зоры,
Не пакідаючы цяпла...
Шукаю ў днях былых апоры,
Каб у наступных жыць без зла.
На ўсё, што вопытам набыта,
Гляджу праз прызму пачуцця,
Каб зернем слоў, як сейбіт жытам,
Збудзіць нямы абсяг жыцця.

## Жаўрук

Ён раніцою будзіць сорак сёл.
Цымбальны дожджык нотак серабрыстых
Ліецца з высяў светла і ўрачыста
У збажынова-травяны прыпол.

І ажывае ўсё тады наўкол:
Сцяблінка, колас, гурт дубоў вячыстых,
Занебны спеў крылатага саліста
Да сонца набліжае цёмны дол.

Яму не трэба славы і ўхвалення,
Знаходзіць ён у песнях спаталенне...
Паэт падобны ў нечым з жаўруком:

Ад мітусні і ад будзённай прозы
Загойвае людскія сэрцы, розум
Натхнёна-разняволеным радком.

* * *

Былінны дуб узняўся на гары.
Не раз ён быў маланкамі хрышчоны,
У кроне разгаліністай ягонай
Знайшлі прытулак птушкі і вятры.

Яго не вабяць звонкія бары
І шматгалосы грай гаёў зялёных.
Стагоддзяў таямнічыя пісьмёны
Чытаю на парэпанай кары.

Дуб на галінах птушанят люляе,
Пад ім у спёку сейбіт спачывае,
Тут вольна думкам, сэрцу і радку.

Тут можна век спасцігнуць за імгненне,
Калі, парваўшы путы прыцягнення,
Крамяны жолуд упадзе ў руку.

* * *

Старэнькі сад наводшыбе сяла.
Парэпаныя, цёмныя галіны,
Нібы далоні цёткі Акуліны,
Якая век багаты пражыла.

Пашчыравала тут бензапіла
Падпітага суседчынага сына,
Ды толькі ацалелая рабіна,
Бы ў маладосці, сёння зацвіла.

О, як цяпер бялюткія суквецці
Мілуе сонца і малодзіць вецер!..
Вось так і мы на схіле дзён сваіх

Кажнюткаму праменьчыку пяшчоты,
Нібыта сонцу, радуемся ўпотай
І бласлаўляем праўнукаў сваіх.

* * *

Я рана ўстаў з пасцелі
І ў бацькаў сад прыйшоў,
Наўкол мяне звінелі
Цымбалы цвыркуноў.

Я чуў у гранні гэтым
Матыў «Світальны сон»,
З мелодыкай Сусвету
Гучаў ён ва ўнісон.

На спеўных хвалях саду
Я плыў на бераг той,
Дзе зорак мірыяды
Мне зычылі спакой.

## Сакавіцкае

Зноў гракоў распрыгонены крык
Разбудзіў гурт вясковых асін,
Распранае зіму сакавік
Ад пагоркаў да сонных лагчын.

А на ўзлеску, дзе болей цяпла,
Дзе раўчук меладычна бубніць,
Зорка першай пралескі ўзышла
І мне ў сэрца з даверам глядзіць.

* * *

Я ўсё часцей жадаю слухаць неба,
Бо на зямлі такая валтузня,
Што дэфіцытам стала цішыня,
Як у нішчымны год акраец хлеба.

Не адарваўся я ад роднай глебы,
Ды толькі сэрца вабіць вышыня,
Недасягальных зорак чысціня...
Сусвет спазнаць — жывой душы патрэба.

Грымотны век мінае. Што далей
Наканавана Богам для людзей?
Няўжо скананне свету надыходзіць?

У кожнага свой лёс, свой Млечны Шлях.
Трымаю хлеб на стомленых руках,
Нібыта візу ў новае стагоддзе.

* * *

Стома восеньскае пожні.
Сум нябёсаў уваччу...
Кожны дзень, як дзень апошні,
Жыць на свеце я хачу.

Светла, радасна, трывожна,
Быццам позні матылёк...
Стомай восеньскае пожні
Наліваецца радок.

## Творчасць

Маланкай выблісиуў радок,
Сатканы з простых слоў...
Дзе мой пачатак?
Дзе выток
Пачуццяў, думак, сноў?

Чыя нябачная рука
Вядзе маю руку
Праз немату чарнавіка,
Нібы па цаліку?

Якім няўлоўным пачуццём
Патрэбна свет пазнаць,
Каб разняволеным радком
Таемнае сказаць?

Каб заспявала слоў сяйво
Сярод начной цішы...
Паэзія не рамяство,
А першацвет душы!

* * *

Адыходзяць родзічы з жыцця
Непрыкметна, як жылі на свеце.
Іх імёны шэпча весні вецер
Трапяткімі вуснамі лісця.
Застанецца памяць арабін,
Выпешчаных дужымі рукамі,
Плач бяроз над сумнымі крыжамі...
І дакор пакінутых хацін.

* * *

Бой святла і ценяў
Скрозь па ўсёй зямлі...
Лепшыя імгненні
У нябыт сышлі.
Юны летуценнік,
Я цябе прашу:
«Беражы імгненне —
Збережэш душу».

* * *

Чытач пытае пра натхненне,
Пра таямніцы адкрыцця...
Натхненне — гэта абуджэнне
Крыніцаў спячых пачуцця.

Калі не можа ўгнацца розум
За ўзнёслым выдыхам душы,
Калі вядзе свой рэй над прозай
Дух праз падман і міражы.

Ляцяць, імгненне за імгненнем,
У незваротны вырай дні...
Хай не пакіне вас натхненне —
Анёлак боскай чысціні.

## Крыж

Самотны крыж на могілках забытых
Не памятае, хто пад ім ляжыць...
Дзіця тут, можа, сном анёльскім спіць?
А мо стары, карэннем дрэў спавіты?

Сцёр пазалоту надпісаў на плітах
Няўмольны час. Крук роспачна крычыць,
Нібы жадае мёртвых разбудзіць,—
Няма каму ў акрузе сеяць жыта.

Забралі жней і сейбітаў клады,
Без веку шмат адчэзла маладых,
Атручаных гарэліцай мясцовай.

Пад скрушны крыж на могілках старых
Кладу букет рамонкаў палявых,
Сцінаюць сэрца пакаяння словы.

* * *

Бяздарна спаленыя дні...
Як шмат было ў іх маладосці,
Бяздумнай, хмельнай весялосці
І безадказнай мітусні!

Іх змыла часу каламуць,
Я днямі плённымі багаты...
І ўсе ж баліць мне горыч страты,
Якой ніколі не вярнуць.

* * *

Зноў людства моліцца грашам
І абясцэнілася слова.
Безабаронная душа
Блукае ў поцемках жыццёвых.

Куды ідзём? Шукаць у чым
Сваё апірышча на свеце?..
Усім знямелым і сляпым
Купалы зорка ясна свеціць.

* * *

Зноў ранак жаўранкам гукае,
На струнах траў зайгралі косы...
Сябе я вольным адчуваю,
Калі па лузе крочу босым.

Пасля асфальту, гулу, дыму
Мне ўсё такім зямным здаецца:
І луг, і неба...
                І Радзіма,
Што ў сэрцы песняй адгукнецца.

## Лёс

У кватэру прыгожай жанчыны
Быў на каву запрошаны я,
За няспешнай бяседай хвіліны
Не лічыла сяброўка мая.
«Вось жыву. А навокал — нікога,—
Наракала на долю яна.—
Муж памёр. Мастаком быў — ад Бога!
Без дзяцей век мадзею адна».
На сцяне спачывалі карціны:
Позні стог. Зімні сон ручая...
У кватэру прыгожай жанчыны
Быў на каву запрошаны я.

* * *

Бярозак восеньскіх маністы.
Кірмаш у парку гарадскім...
Спявала песню гарманістка
З русявым хлопчыкам сваім.
Пра маладога лейтэнанта,
Што ў лютай бітве голаў склаў...
«Четыре трупа возле танка»,—
Хлапчук матулі падпяваў.

Жанчыны слёзы выцiралi,
Мужчыны слухалi без слоў.
І зрэдку «соценкі» кідалі
Да ног самотных спевакоў.
Гармонь рыдала, бы ўдавіца,
Спеў хлапчука вярэдзіў слых:
«И будет карточка пылиться
На фоне пожелтевших книг».

* * *

Дзяўбуць ад раніцы жанчыны
На тратуарах брудны лёд,
Нібы Ўсявышняму павінны...
Які ўжо дзень, які ўжо год.

Ім бы люляць маленькіх дзетак,
Сваіх каханых мілаваць...
За грэх які ім кара гэта? —
Нідзе адказу не чуваць.

Хто іх і воляю якою
Пагнаў на лютаўскі мароз?..
Хто скажа, меркаю якою
Пазначыць кошт жаночых слёз,

Якія сібер выціскае
З вачэй, што сэрца мне пякуць...
Усе б аддаў, што меў і маю,
Каб век не бачыць, як дзяўбуць

Ламамі люты лёд жанчыны.
Нявер'я і бязмоўя лёд...
Алесі, Мар'і, Кацярыны,
За вамі вера і народ.

* * *

Гарадскіх выхадных не люблю,
На дыване ляжаць мне пакута,
Пасля працы лячу на зямлю
На работу ў пасёлак Якуты.

Размаўляе рыдлёўка з раллёй
На сялянскай мазолістай мове...
І я сам аджываю душой
У забытым прабабчыным слове.

## Скульптуры

*Дыптых*

I

Хлопчык з лебедзем. Фантаны
Граюць весела ў цішы
Для шчаслівых закаханых,
Для здарожанай душы.

Хлопчык з лебедзем зліліся,
Як блізняты-спарышы...
Чалавеча, прыпыніся,
Слоў паспешных не кажы.

Памаўчы. І ў зморы-млосці
Анікога не віні,—
Каля вечнай прыгажосці
Чуйным сэрцам адпачні.

II

Дзяўчынка з парасонам
У скверы гарадскім.
Пад дожджыкам зялёным,
Пад ветрам веснавым.

Глядзіць, нібы жывая,
На нашу мітусню...
Здаецца, што спявае
Нягучна песню дню.

Тут, горадам стамлёны,
Раблюся маладым...
Пад дожджыкам зялёным,
Пад ветрам веснавым.

* * *

Няма нам спакою адвеку.
І з кожным імгненнем цяжэй
Убачыць у твар чалавека
У тлумных натоўпах людзей.

Як хочацца ў жыта мне ўпасці,
Паслухаць пагудку чмяля...
Так мала нам трэба для шчасця,
Якога не будзе пасля.

* * *

Адпалалі кветкі лугавыя,
Прамільгнула лета, быццам сон.
Ды прыроды дзіўная стыхія
Шчэ мацней бярэ мяне ў палон.

Маладога верасня пяшчота —
Колькі ў ёй спакою і святла!
Аздабляе клёнаў пазалота
Краявід зарэчнага сяла.

Як чаўны былінныя, аблокі
Да чужых сплываюць берагоў...
Дух прыроды, вольны і высокі,
Напаўняе сэрца да краёў.

## Сталасць

Ужо не маладосць,
Яшчэ не старасць...
Як нечаканы госць,
Прыходзіць сталасць.

Даруе супакой,
Пачуцці студзіць,
Усіх, хто быў з табой,
Праўдзіва судзіць.

Адыдзе, адгарыць,
Як летуценне:
Няўдзячныя сябры,
Каханых цені.

## Чорны бусел

Чорны бусел заблудзіўся ў небе —
Не знайшоў радзіннага гнязда,
І людзей, што дбалі век аб хлебе,
Паланіла злыбеда-бяда.
А бяда Чарнобылем завецца.
Паліць сэрцы люты сухавей...
Хто памёр — ніколі не прачнецца,
Мо таму і чуем: «Там лацвей».
А жывым — жывое: дбаць аб хлебе
І маліцца за малых дзяцей...
Чорны бусел заблудзіўся ў небе
Над зямлёй няспраўджаных надзей.

* * *

Сад забыты. Спляліся галіны
Яблынь, груш...
Анікога наўкол.
Каркне вечарам воран былінны —
Смачна чмякнецца яблык на дол.
Быццам звон, скаланецца планета,
Зоркі ў небе начным затрымцяць...
Слёзы яблынь — антоны, ранеты...
Тут няма больш каму іх падняць.
«Дзе ж вы, людзі?!» — бязмоўе гукаю,
Ды чакаю адказу дарма...
На антонаўку я наступаю,
Як на міну...
Мяне больш няма.

## Абуджэнне

Калі абуджаюцца кветкі ад сну
І жаўранак першы над рунню зялёнай
Світальным званочкам вітае вясну,—
Душа напаўняецца песняй натхнёнай.

На струнах абуджанага пачуцця
Прырода шадэўры такія стварае,
Што хочацца верыць у вечнасць жыцця,
Якое да зор чалавека ўздымае.

* * *

Паставіць кропку і сказаць: «Усё.
Завершана твайго жыцця работа...»
Але ж спявае за акном лісцё,
Ахвярна пчолы носяць лета ў соты.

І не завяла квецень пачуцця,
Душа, як немаўля, чакае слова,
І дзень хвалюе фарбамі жыцця...
Пастаўлю кропку. І пачну нанова.

* * *

Унучка кліча: «Дзед!..»
А мне ўсяго паўвека.
І не прымаю лекаў...
Які ж я, людцы, дзед?

Ды маладзею зноў
За нейкую хвілінку
Ад чарадзейных слоў:
«Люблю дзядулю Дзімку».

* * *

Хтось прагне часам гандляваць
І на ліхвярскім рынку
Былое найтанней прадаць:
«Купіце за скарынку!»
А я з мінуўшчыны сівой
Дзядулі голас чую:
«Хрышчоны голадам, вайной,
Пражытым не гандлюе».



* * *

Палёт натхнёны пачуцця...
Як самы светлы сон жыцця,— каханне.
Пяшчота вуснаў і вачэй,
Напал пачуццяў і страсцей — каханне.
Ласкавы дотык любых рук,
Цяпло спатканняў, золь разлук — каханне.
І пекла рэўнасці, і рай...
Пакуль жыву — не пакідай, каханне!

* * *

Вось жанчына з вачамі Рагнеды,
Чорных броў жураўліны размах,
Усяленскія страсці і беды
Бачу я ў гэтых дзіўных вачах.

Бачу ў іх вечны клопат жаночы
І пяшчоту, што марыў знайсці...
Я гатовы за гэтыя вочы
На Галгофу аднойчы ўзысці.

# Акварэлі

*Трыпціх*

Любите живопись, поэты...
*Мікалай Забалоцкі*

I

Я дзіўны свет намаляваў
Жывой фантазіяй паэта,
Табе яго падараваў,
Але ў адказ сказала мне ты:

«Я не люблю тваіх бяроз
З іх невыноснаю журбою,
Жывеш ты ў свеце райскіх кроз,
Мне ж даспадобы ўсё зямное».

Цябе не буду я трымаць.
Зрабіць не шмат мне засталося:
Святлом душы дамаляваць
Жыцця бярозавую восень.

II

Не спадзяюся на спатканне,
Хоць акварэлі пачуцця
Разліты фарбамі кахання
На шэрым аркушы быцця.

Пачуцці нашы адляцелі,
Як сон пажоўклага лісця...
А тыя фарбы-акварэлі
Размыты прозай забыцця.

Ды, можа, ў іншым пакаленні,
Калі чысцейшым стане свет,
Убачыць іх бязмоўны геній
І дамалюе твой партрэт.

III

Пад месяца крылом
Нам дыхаць і спяваць...
Скажы, якім святлом
Цябе намаляваць?

У тлумнай мітусні
Мінае дзень за днём,
Ды фарбы цеплыні
Сагрэты пачуццём.

Скажы, якім святлом
Цябе намаляваць?..
Радком — адным мазком —
Твой вобраз перадаць.

* * *

Адкажы, якой травою
Ты мяне прычаравала?..
Да цябе сцяжынкай вузкай
Зноў бягу я на спатканне.

Ты ў садку мяне чакаеш,
Дзе ранетавае лета
На тваіх вішнёвых вуснах
Пацалункам салаўіцца.

Раўнаваць цябе не буду
Да залётнага салоўкі,
Буду піць вішнёвы водар
З вуснаў, што мяне кахаюць.

А пад раніцу, стамлёны,
На тваіх каленях белых
Я засну. І мне прысніцца
Наша, любая, вяселле.

* * *

Жанчына спіць. На снезе прасціны
Спякотнае раскінулася цела...
Яно жывою ліраю звінела,
Калі мы заставаліся адны.

Якія прыгажуні сняцца сны?..
А салаўёў світальная капэла
Спявае так, нібыта ап'янела
Ад бэзавага водару вясны.

Гляджу на мілы твар, зачараваны.
О, як бы я жадаў сваёй каханай
Зямное хараство намаляваць!..

Багата слоўных фарбаў у паэта,
Ды нават акварэлямі санета
Адценняў пачуцця не перадаць.

* * *

Ах, якая кароткая ноч!
Прамільгнула яна, як імгненне.
Мы з табой быццам светлыя цені...
Ах, якая кароткая ноч!

Шмат чаго мы забудзем, апроч
Гэтай ночы, што згіне ў світанні...
Чым глыбей пачуццё і каханне,
Тым святлейшая майская ноч.

* * *

Гаркавы дым бяссоннага кастра
Нас заручыў з табой пасля расстання,
Таму, відаць, і саладзей каханне,
Адкрытае дарогам і вятрам.

Як пацалункі полымна гараць
На вуснах, што мне шэпчуць з хваляваннем:
«Мы будзем разам, любы, да світання
Кахання зёлкі росныя збіраць».

Зноў на цымбалах граюць цвыркуны
Мелодыі забытае вясны,
Дзесь салавей ад радасці смяецца.

Нас не разлучаць болей гарады.
Завейныя снягі і халады
Не выстудзяць пачуццяў з нашых сэрцаў.

* * *

Вачэй тваіх вільготнае святло
Мяне пяшчотай дзіўнай счаравала,
Яно спакой душы маёй забрала —
І пачуццё былое ажыло.

З гадамі ў бездань часу не сплыло
Усё, што нас калісьці хвалявала...
Як хораша, што ты мяне спаткала,
Што грэе сэрца зноў тваё цяпло!

Давай не будзем болей разлучацца,
Давай кахаць, да зморы мілавацца,
Хай свеціць нам да скону пачуццё...

Як добрае віно, пасля расстання
Мы п'ём з табою хмельны мёд кахання,
Якім сагрэта нашае жыццё.

* * *

Жыццё і смерць пануюць на зямлі.
Ды ёсць тваё гаючае каханне,
Яму я абавязаны дазвання,
Як жытні колас матчынай раллі.

Адно другога мы з табой знайшлі
Невыпадкова... Нашае спатканне
Нібы святых нябёс наканаванне,
Вясновым кветам душы зацвілі.

Але ж наўкол такая халаднеча!
Глядзі, як многа сэрцаў чалавечых
Зрабіліся як тыя ледзякі...

Мы будзем грэць з табой адно другога
Цяплом кахання, што прыйшло ад Бога.
І не разлучаць нас з табой вякі!

## Вясковая дзяўчынка

Твая душа нібыта навіна,
Якую не чапаў анёл натхнення,
Яна чакае добрага насення,
Нібы запеўкі жаўранка вясна.

Сядзіш пад клёнам сонечным адна,
Знаходзячы ў самоце спаталенне,
Душы тваёй загадкавай памкненні
Не апяклі ні здрада, ні мана.

Глядзіш на свет нібыта ўпершыню.
Здаецца, што цябе я толькі сню.
Малюю ў сэрцы вобраз непаўторны...

Якім, скажы мне, перадаць радком
Твой свет, жывым напоўнены агнём,
І глыбіню вачэй блакітна-зорных?

## Крыўда

Не звоніш тыдзень. Крыўда, як змяя,
Твае пачуцці ядам атруціла,
Але мацней цябе кахаю я,
Усё навокал ты запаланіла,

Шчэ не астыла цеплыня твая.
І голас твой, нязмушаны і мілы,
Гучыць у сэрцы песняй салаўя
І надае пачуццям цуда-крылы.

Мо крыўду мне не зможаш дараваць?..
Ды не стамлюся верыць і чакаць.
Цябе мне чуць і бачыць неабходна.

Міне расстанне, як трывожны сон,
Зазвоніць раптам ноччу тэлефон —
І я здалёк пачую голас родны.

* * *

Кароль санетаў, велічны Петрарка,
Табе мае прачулыя радкі.
Праз доўгія эпохі і вякі
Для ўсіх сляпых ты свеціш зоркай яркай.

Жыў сэрцам. І ў калысцы страсці палкай
Ты песціў свет трывожна-трапяткі...
Лаура!.. Параўнаць жанчын якіх
Са сціплай авіньёнскаю гандляркай?

Была яна ў паэта альбо не?..
Чароўны вобраз перадаў санет,
Намаляваны ліраю Франчэска.

Лауры непаўторнае святло
Ў маёй душы радкамі ажыло,
Як у забытым храме цуда-фрэска.

* * *

Не парушай ілюзіяй кахання
Дрымотны сон спакутванай душы.
Растаіі, бы ў спякоту міражы,
Апошнія надзеі на спатканне.

Патухлі і пачуцці, і жаданні.
Над горадам бясконцыя дажджы...
І голас твой, далёкі і чужы,
Не абуджае ў сэрцы хвалявання.

Але чаму ты звоніш мне штодня?
Мой лепшы доктар зараз — цішыня,
Спакой, што напаўняе згодай сэрца,

З тым светам, дзе я верыў і кахаў...
Табе я ўсё да кроплі даравау.
Даруй і ты. Бывай! Усё мінецца.

* * *

Гучала музыка ў цішы
Начнога саду.
Твой голас, родны і чужы,
Быў мне не рады.

Не адчуваў я больш у ім
Цяпла былога...
У зорным вобразе тваім —
Сябе самога.

Магічнай поўні варажба
Нас чаравала,
Ты штось казала, а сама,
Бы ў сне, лунала.

Цябе я слухаў і маўчаў...
І мог адчуць я,
Як вобраз іншы хваляваў
Твае пачуцці.

* * *

Аб волі зноў пяюць дажджы
Над веснаю зямлёй,
Мая ж душа ў тваёй душы
Бы ў клетцы залатой,
Жадала б вырвацца яна
З палону пачуцця,
Бо сэрца вабяць навізна
І радасць адкрыцця.
Ды кожны раз, як толькі я

Свет новы пазнаю,
Бярэ мацней душа твая
Ў палон душу маю.
І гэтай крэўнай барацьбе
Канца не будзе, не!..
Пакуль належу я табе,
Як ты належыш мне.

* * *

Я даўно не дарыў табе кветак,
Аб каханні радкоў не чытаў.
Не крыўдуй на мяне ты за гэта,
Я ж кахаю цябе, як кахаў.
Не шкадую, што шлях да цябе я
Не знайшоў...
А другія знайшлі...
Проста ў сэрцы спявалі завеі
І зімовыя кветкі цвілі.

* * *

І надыходзіць у душы світанне,
Калі ты завітаеш да мяне...
Зліюцца нашы цені на сцяне,
З пачуццяў нараджаюцца прызнанні.

Спявае сэрца сэрцу з хваляваннем
Аб шчасці і пралескавай вясне,
Дзе мы з табой, нібы ў чароўным сне,
Да схочу п'ём бярозавік кахання.

Калі ж прыходзіць развітання час,
Цябе не адпускаю кожны раз,
Нібыта больш не ўбачымся ніколі.

Пачуцці ў адзіноце я спялю,
Наступнага спаткання зноў малю,
Так, як насення ўвесну просіць поле.

* * *

Я не забуду дзіўную хвіліну,
Калі цябе спаткаў упершыню.
Як лёсу, абавязаны я дню,
Што заручыў нас повяззю адзінай.

Мы разам. Ды самотнаю часінай,
Калі ты не са мной, твой вобраз сню,
Ты ўся саткана з лёду і агню,
Мая непрадказальная жанчына.

Сагрэты я тваім жывым цяплом,
Што напаўняе сэрца пачуццём,
Якому ў завірухі не астынуць.

Відушчы я святлом вачэй тваіх.
Апошні верш, як развітальны ўздых,
Я для цябе, любоў мая, пакіну.

* * *

На плячах — вясновая сукенка,
У руках — букет святочных руж...
Не глядзі з трывогай у люстэрка,
Я ж табе не проста строгі муж.

Вобраз твой маршчынкі не састараць,
Постаць час нялёгкі не сагне.
Не глядзі ў люстэрка...
Што нам старасць,
Калі ёсць ты, родная, ў мяне!

* * *

Ты зноў гнявешся без прычыны
Турботнай ношаю гадоў,
Я ж не лічу тваіх маршчынак
І заінелых валасоў.
Тужу і я па маладосці,
Ды мне з гадамі даражэй
Любой крыклівай прыгажосці
Ласкавасць дарагіх вачэй.

* * *

Вальсуе з восеньскай лістотай
Вясёлы вецер на двары.
Смяшынкі з ціхаю пяшчотай
На развітанне падары.

Мо больш не здолеем сустрэцца,
Ды ў золкіх прыцемках жыцця
Я зберагу твой смех у сэрцы —
Жывое рэха пачуцця.

* * *

Заручыўся з тваімі вачыма
Закаханасцю хворай душой.
Для мяне ты не проста жанчына —
Дзіўны свет чысціні незямной.
Слоў прыгожых казаць я не ўмею,
Я хачу, каб ты побач была,
Бо, як дрэва ў спякоту, змарнею
Без твайго маладога святла.

## Прызнанне

Я Вас кахаю. Вы — крыніца
З гаючай, чыстаю вадой,
Майго кахання таямніца
Вядома толькі Вам адной.

Я Вас кахаю. Побач з Вамі
Крыляю лёгкім жаўруком,
Калі з чароўнымі вачамі
Мой позірк стрэнецца крадком.

Я Вас кахаю. Вецер кружыць
Лістоту клёнаў за акном...
Мо і мяне падхопіць сцюжа,
Спаўе душу зімовым сном?

А вам квітнець зімой і летам.
І вы забудзеце, відаць,
Пра закаханага паэта,
Якога Вам не пакахаць.

* * *

Сярод жыццёвага абсурду,
Няспынных боек, звад людскіх
Прыдумаў я Краіну Цудаў,
Краіну Цудаў для дваіх.

Там узыходзіць сонца ўранні
І не заходзіць уначы,
У той краіне ад кахання
Знайшоў я срэбныя ключы.

І адамкнуў нямое сэрца
Для чар пралескавых вачэй...
О, як яно зазыўна б'ецца:
«Прыходзь, адзіная, хутчэй!»

Ды ты ў будзённасці марнуеш
Пачуцці лепшыя і дні.
Жадала б чуць...
Але не чуеш,
Не верыш цудам ты ані.

* * *

Мне б з табой аднойчы развітацца,
Каб ніколі больш не сустракаць,
Толькі хто твае трысцінкі-пальцы
Ў завіруху будзе саграваць?

У пачуццях вольным быць хачу я,
Пець, як дыхаць, і спяваць, як жыць.
Толькі хто твой ціхі плач пачуе
І на першы покліч прыбяжыць?

Мне б цябе забыць зусім... Здаецца,
Я змагу яшчэ мацней кахаць...
Толькі што рабіць тады мне з сэрцам,
Што душы самотнай адказаць?

* * *

Я цябе жадаў. І ты, як мара,
Да мяне на ноч адну прыйшла,
Невыказна казачным пажарам
Мне душу і сэрца апякла.

Дзякуй за нядоўгае спатканне.
Не заручыць нас ніколі лёс:
Мы з табой — два востравы кахання
Ў акіяне радасці і слёз.

* * *

Хмельны пах язміну...
Лёсаў скрыжаванне...
Я шукаў жанчыну,
А знайшоў каханне.
Светла мне пяецца,
Хоць ты не са мною,
Паланіла сэрца
Пачуццё жывое.

* * *

За гэты сад, за дзіўны вечар,
За вочы з лёгкаю журбой,
За слодыч вуснаў, за сустрэчу,
Што прэч прагнала мой спакой,

За сарамлівае прызнанне,
За ласку лёгкае рукі...
Прымі на памяць аб каханні
Мае наіўныя радкі.

Мінуць гады. Рукой старэчай
Альбом пажоўклы разгарнеш,
Ізноў забытую сустрэчу
Табе навее гэты верш.

І ўбачыш ты сябе прыгожай,
Цнатлівай, звонкай, маладой,
Успомніш гэты вечар гожы...
І зноў я, любая, з табой.

* * *

Калі няма ўзаемнага кахання
І ты як адзінец сярод людзей,
Падслухай дрэў трывожнае шаптанне
У прадчуванні снежаньскіх завей.

Наш час рацыянальнасцю цвярозы.
Ты ж пра свае пачуцці раскажы
Чуллівым клёнам, трапяткім бярозам...
І зноў пагодна стане на душы!

* * *

Не магу я напаўголаса спяваць,
Напалову быць каханым і кахаць...
Мёд і горыч пачуцця я п'ю да дна,
Быццам кубак незнаёмага віна.

* * *

Уцяку ад цябе ў глухамань,
Буду вершы пісаць пра каханне
Пад дыктоўку дажджу маладога
І буслінай вясновай марзянкі.
Уцяку ад цябе ў глухамань,
Каб упэўніцца зноў у адзіным —
Як цябе мне цяпер не хапае...
Уцячы ад сябе немагчыма.

* * *

Калі жанчына даруе,
Яна толькі Бога чуе.
І плёткі яе абмінаюць,
Што сэрца смяротна раняць.
Не скардзіцца і не плача,
З усмешкай глядзіць дзіцячай
На тлум і на нашы звады...
І прэч адступае здрада.
Калі жанчына даруе,
Яна святым ахвяруе,
З грудзей душу вырывае,
Пакутуе і згасае,
Як свечка перад світаннем,
Ў імя жыцця і кахання.
Калі жанчына даруе...

* * *

Зноў аблашчыла сонца вясновае
Ля ціхмянай ракі вербалоз.
Бачу вочы твае васільковыя —
Дзве крынічкі, паўнюткія слёз.

Як ахвяра густой павуцінаю,
Ты аблытана хіжай маной,
Толькі ведай, цябе не пакіну я,
Як раней, я — з табой, ты — са мной.

Дык не плач. Глянь, як сонца гуллівае
Снег зганяе з рачных берагоў...
Гэтак вось тваё сэрца чуллівае
Ад балючых пазбавіцца слоў.

* * *

«Не замінайце жыць»,—
Вы ціха мне сказалі,
Бы павуцінку-ніць
Між намі разарвалі.

Яе мы аднавіць
Не зможам аніколі...
Не замінайце жыць.
І дзякуй Вам за волю.

* * *

Рамонкаў снежныя праталіны.
Прапахлы мятаю стажок.
У плацці, ветрыкам прыталеным,
Вальсуеш ты, як матылёк.

О, як ты хораша ўсміхаешся
Сінечай неба з-пад павек!..
Апошні раз мы сустракаемся,
Хоць да расстання цэлы век.

* * *

— Майго кахання ты не заслужыў,
Бо не мяне, а вобраз мой любіў.
Жадала я зямнога. Ты ж узнёс
Мяне вышэй завоблачных нябёс.

Жанчына я. А ты, як той хлапчук...
— Каханая, балюча гэта чуць.
Твайго кахання я не заслужыў?..
Затое я кахаў, а значыць, жыў!

* * *

Патух зусім агонь кахання,
І мы на попеле стаім...
І ўсё ж давай на развітанне
Хаця б хвіліну памаўчым.

Мо гэта сумная хвіліна
Яшчэ наведае мяне
У светлым вобразе жанчыны,
Пачуцці ў сэрцы ўскалыхне.

* * *

Завейны холад развітання,
Аж слёзы стынуць уваччу...
Каля труны майго кахання
Цябе я бачыць не хачу.
І ўсё ж, пакуль яшчэ жывое
Ў збалелым сэрцы пачуццё,
Тваёй душы цяпло зямное
Мне доўга несці праз жыццё.

* * *

Завяла ружа. Сэрца захліснула
Завейнай хваляй зыбкая імгла...
Якое ты каханне адштурхнула,
Якіх пачуццяў ты не зберагла?

Смяялася з мяне і фліртавала,
А я да ачмурэння раўнаваў...
Я дзякую табе, што не кахала,
За тое, што ахвярна я кахаў.

* * *

Нябёсаў сумна-шэрых стынь,
Дзе па каханні плача восень,
І слоў маёвая цяплынь —
Усё ў душу пераліліся.
Відаць, я доўга буду жыць
Святлом тваёй зямной істоты,
Пакуль душа не адбаліць
На суднай пласе адзіноты.

* * *

Дагарае клён асенні
У раскрыленым акне...
Не знайшоў я спатлення
Ні ў каханні, ні ў віне.

Верыў я тваім прызнанням
І ў падманутай душы
Распаляў агонь кахання...
А пасля віном тушыў.

Дзе ж вы, дзіўныя імгненні,
Што наведвалі мяне?..
Дагарае клён асенні
У раскрыленым акне.

## Пераўвасабленне

Паміж небам і зямлёю,
Паміж смерцю і жыццём
Мы спаткаліся з табою
І хмурынкамі плывём
Над збуялым жытнім полем,
Дорым цёплы дождж раллі.
Мы плывём...
Нарэшце волю
Нашы душы набылі!

* * *

Твой вобраз быў ярчэй за мноства сонцаў,
Чысцей за кроплю боскае расы,
Чароўна-невыказнае красы,
Ён выпіў усяго мяне, да донца.

Я страціў сэнс зямнога існавання.
Дзе праўда, дзе мана? Дзе ноч і дзень?..
Мяне няма, застаўся толькі цень.
Распяты цень на попеле кахання.

* * *

Аб маім такім няпростым лёсе
І пра вочы шэрыя твае
Салавей бяздомны на бярозе
Цэлы вечар плача і пяе.

Цэлы вечар мне вярэдзяць сэрца
Успаміны, дзіўныя, як сны.
Нікуды ад іх мне не падзецца,
Не пазбыцца іх мне да труны.

Толькі мы з табой не будзем разам
Па каханні згубленым тужыць...
Зарасце на сэрцы рана з часам,
Салавей у вырай адляціць.

* * *

Я бласлаўляю дні былыя,
Што ў бездань часу адплылі,
І тыя рукі трапяткія,
Што побач шмат гадоў былі.
Яны мае гаілі раны
І баранілі ад бяды...
У светлым вобразе каханай
Я сам застаўся назаўжды.

* * *

Я пазычу ў восені
Золата гаёў,
Неба цёплай просіні,
Суму жураvoў.

Чырвані рабінавай,
Клёнаў жаўцізны...
Грэць душу ўспамінамі
Буду да вясны.

* * *

Маё наступнае ў тумане,
Былое згасла, адышло...
Але жыве ў маім каханні
Тваё чароўнае святло.

Яно не дасць з дарогі збіцца
Мне ў доўгіх прыцемках жыцця.
Тваё каханне як крыніца
Майго жывога пачуцця.

* * *

Кахання птушку, што забіта намі,
Я пахаваў уласнымі рукамі.
Але, відаць, яе душа жывая,
Бо ні на крок мяне не адпускае
Твой светлы вобраз...
                    У вачах пытанне:
«Навошта ты забіў маё каханне?»

* * *

Зацятая, халодная, як камень,
Мяне ты не жадала зразумець,
Калі сваімі цёплымі рукамі
Твае далоні я хацеў сагрэць.

...Прайшлі гады, але былое з намі,
Хоць сібер паліць квецень пачуцця...
Напэўна, можна пакахаць і камень,
Калі ў ім ёсць хоць кропелька жыцця.

* * *

Не кахала мяне ты ніколі,
Проста побач нябачна была.
Ды прысутнасцю гэтай міжволі
Ты каханне маё зберагла.

Не змяняю яго на пяшчоту
Непрыгожа прыгожых жанчын...
Ува мне — вобраз светлай самоты,
Гэта — ты. Значыць, я не адзін.

* * *

Я цябе мог паўгода чакаць,
А пасля жыць паўгода спатканнем...
Ты ж мяне прымушала кахаць
Некаханнем сваім, некаханнем.

Падымала мяне на крыло,
Калі немаччу быў я скаваны,
Сціплых слоў дарагое цяпло:
«Некаханы ты мой, некаханы...»

Пачуцця ў звонкім сэрцы сваім
Ты не выдала нават дыханнем...
Толькі ведаю я аб адным:
Больш кахання тваё «некаханне».

* * *

З калючых вуснаў дзікай ружы
Я піў кахання горкі мёд...
Цяпер наўкол гуляюць сцюжы,
Скаваў пачуцці золкі лёд.

Па днях вясновых сэрца тужыць,
Самоціцца які ўжо год...
З калючых вуснаў дзікай ружы
Я піў кахання горкі мёд.

* * *

Мне ёсць па кім тужыць,
Мне ёсць каго чакаць...
А значыць, трэба жыць,
Пакутваць і спяваць.
Агеньчыкам душы
Азяблых саграваць...
Мне ёсць па кім тужыць,
Мне ёсць каго кахаць.

* * *

Як мала я паспеў!
Шукаў залацінкі праўды ў чалавечых сэрцах,
Ды ледзь не на кожным кроку спатыкаўся
Аб камяні маны і недаверу.
Самаахвярна дарыў цяпло сваёй душы
Зняверaным і аслеплым,
А сам пакутваў ад лядашчай адзіноты.

Імкнуўся дапамагчы ўсім,
Каму патрэбна была мая дапамога,
Але ніхто не дапамог мне
Знайсці адказ на пытанне: «Хто я такі?»
Кахаў да бяспамяцтва,
Ды не знаходзіў узаемнасці.
Кахаюць, мабыць, як і паміраюць,—
У адзіноце.
Узаемнай бывае страсць, а не каханне,
Бо сапраўднае каханне —
Вялікае супрацьстаянне розуму і душы.
І не кожнаму дадзена магчымасць
Адкрыцця такога пачуцця.

* * *

Ты мне кажаш: «Патухла каханне...»
І адводзіш свой позірк убок...
Не жадаеш, каб я хваляванне
Прачытаў у вачах незнарок.

Я ж кахання свайго не хаваю
І пяшчотней цалую далонь,
Бо ў вачах тваіх шэрых чытаю
Пачуцця неўтаймоўны агонь.

* * *

Жыццё пражыўшы да паловы,
Я зняў з душы сваёй аковы,
Яе не здзівіш больш нічым.
Адным каханнем... Ім адным.

* * *

Не пацалункі і прызнанні
І не спякотны дотык рук,
Цана сапраўднаму каханню —
Шлях спадзяванняў і разлук.

Хто да апошняга дыхання
Жыць будзе гэтым пачуццём,
Той варты шчасця і кахання,
Загартаванага жыццём.

* * *

Пад поўняю сівой,
Пад сонцам веснавым
Я побач быў з табой,
Хоць і не стаў тваім.

Майго жыцця гады
Ты выпіла адна,
Нібы карэц вады,—
Да кропелькі, да дна.

* * *

Ты не звоніш мне. І я маўчу.
Хоць ад нематы ледзь не крычу.
Ведаю, чакаеш ты званка,
Быццам прывітальнага гудка.
Ды маўчу. І ты маўчыш...
Але

Паміж намі сувязь існуе:
Пра мой сум, пра думкі ўсе тваe
Сэрца сэрцу пазыўныя шле.
Гэту сувязь, покуль будзем жыць,
Не парваць, агнём не спапяліць.

* * *

Ад людскіх згрызот і звад,
Ад маны і недаверу
Уцякаю ў лістапад
З чыстым аркушам паперы.

Не бягу [illegible] ад жыцця,
Кленучы нядолю злую...
Пад расстайны шэпт лісця
Дзіўны вобраз дамалюю,

Той, што ў сэрцы назаўжды
Застанецца птушкай белай...
Лістапад мае сляды
Замяце лістотай спелай.

* * *

Дождж за вокнамі, дождж,
Як забыты чароўны матыў.
Палюбі мяне, дождж,
Як цябе басаніж я любіў.

Наталі мяне, дождж,
Пахам кветак і лекавых траў,
Правядзі мяне, дождж,
Да сцяжынак, дзе з любай блукаў.
Атулі мяне, дождж,
Хлебным духам дажынкавых ніў,
Дзе каханне сваё
Я ў далёкім юнацтве згубіў.

* * *

Пакуль ты іншую кахаў,
Яна з цярплівасцю чакала.
Дзяцей адна пагадавала,
Пакуль ты іншую кахаў.

Ды ты пагардай зневажаў
Яе пакутную пакору...
І мудрасць, што вяла праз сорам,
Пакуль ты іншую кахаў.

Каханка кінула цябе,
Бо аніколі не кахала,
А жонка моўчкі даравала...
Ды ці даруеш сам сабе?

* * *

Свавольнік вецер бязлітасна зрывае
Апошнюю лістоту з маладзенькіх бяроз,
Распранаючы іх.

Суседнія клёны пачырванелі ад сораму.
І толькі стары каржакаваты дуб,
Які пабачыў шмат на сваім вяку,
Як мудры філосаф, у забранзавелай
Лісцвянай мантыі,
Разважае аб нечым сваім.
Старое дрэва размаўляе са мной
На мове лістападу.
Мы разумеем адно другога без слоў,
Бо мне таксама шкада былой маладосці,
Вясновых пачуццяў, якія больш не паўторацца,
Любімых вачэй, напоўненых па самыя вейкі
Слязьмі роспачы.
З імі я развітаўся толькі ўчора,
А здаецца, мінула цэлая вечнасць.

## З юнацтва

Купалася сонца ў тварожным тумане,
Калі ты прыйшла да мяне на спатканне.

На лодцы кахання, абмытай расою,
Па хвалях пракосаў плылі мы з табою

Да шчасця ў абдоймы, насустрач світанню...
І цэлая вечнасць была да расстання.

* * *

Да пабачэння, мой анёл,
Цябе я болей не трымаю,
Хоць разлучыцца сіл не маю...
Да пабачэння, мой анёл!

Забудзеш хутка ты мяне,
Сустрэўшы новае каханне,
Шапчу табе на развітанне:
«Забудзеш хутка ты мяне».

Завялі ружы пад акном,
Што мы з табою пасадзілі,
Яны абоіх нас любілі...
Завялі ружы пад акном.

Я не заплачу па табе,
Не пракляну ніводным словам...
Бывай, мой сябра выпадковы,
Я не заплачу па табе.

* * *

Восеньская таполя атрасае лісцё —
Лета адлятае,
А разам з ім і маё каханне,
Якое не паўторыцца ніколі.
Ды застаецца надзея,
Што яно зможа ўваскрэснуць
Разам з першай вясновай лістотай.

* * *

Калі з табою мы кахалі,
Нас травы ў лузе спавівалі
Над вербнаю ракой,
І перашэптваў нашы словы
Зраселы каласок жытнёвы
Світальнаю парой.
Калі з табою мы кахалі,
Пачуцці нашыя ўздымалі
Да сонца жаўрукі...
Усё мінула незваротна.
Ты не са мной. І я, самотны,
Блукаю ля ракі.
Калі з табою мы кахалі...

* * *

Дзве самотных душы
Размаўлялі ў цішы
Аб каханні, што згасла каметай.
Цеплыні не было,
Толькі неба цвіло
Маладымі рамонкамі лета.
Явар ім прашаптаў:
«Я даўно вас чакаў.
Па якіх вы пуцінах блукалі?..»
Дзве самотных душы
Разышліся ў цішы...
Не кахалі яны, не кахалі.

* * *

Не вырвацца з палону адзіноты,
Хаця навокал добрых шмат людзей...
Мне б кропельку тваёй жывой пяшчоты,
Смяшлівую іскрыначку вачэй.

Акром цябе нікога мне не трэба,
Ты неабходна мне, як ноч і дзень,
Як жаўруку звон веснавога неба,
Як соннай пчолцы ранішні прамень.

* * *

У вачах тваіх сум і трывога,
Не жадаеш мяне ты губляць...
На мяжы незямнога парога
Абяцаю цябе я кахаць.

Калі нават за іншым пакрочыш,
За руку я не стану трымаць.
Боль і горыч — усё, што захочаш,
Абяцаю табе дараваць.

Не разлучаць нас буры-завеі
Ні на той, ні на гэтай мяжы,
Покуль цепліцца промнік надзеі
У маёй спапялёнай душы.

* * *

Нявольнік страсці хуткаплыннай,
Спакой змяняўшы на саюз
З чужой і роднай мне жанчынай,
Пакінуў я прытулак муз.

Душа ахоплена маўчаннем,
Які ўжо дзень яе не чуць...
А хтосьці кажа, што каханне
З натхненнем поруч век ідуць.

* * *

Не вярнуць чароўных тых імгненняў
Ні цяпер, ні заўтра, ні пасля...
Мы з табою з розных пакаленняў,
Розныя, як неба і зямля.

Не была ні любай, ні каханкай,
Проста ў шэрай непагадзі дня
Прамільгнула зыркаю маланкай,
Засталася ў сэрцы цеплыня.

## Знаёмы сон

Мне сняцца зорныя паляны,
Ля рэчкі хмельныя стагі
І вечар, што, як кот рахманы,
Паўзе да вёскі праз лугі.

Мне сніцца гай, дзе салаўіцца
Прыроды грай аж да нябёс,
Дзе ты ў кароценькай спаднічцы
Адна блукаеш між бяроз.

І я лячу праз сіні вечар,
Праз золь і непагадзь гадоў,
Хачу абняць цябе за плечы...
І прачынаюся ізноў.

* * *

Ты мяне судзіць не маеш права,
Што палю на дробязь пачуццё.
Для цябе каханне як забава,
Для мяне ж яно — само жыццё.
І хоць разам нам не давядзецца
Побач быць — праз непагадзь гадоў,—
Ведаю, каханне застанецца,
Вобраз твой, сатканы з кветак слоў.

## Настальгія

Вясёлыя хвалі Сялявы
Адносяць тугу па табе
Прэч ад берага нашага кахання
У патаемныя глыбіні
Вірлівай вадзяной пустыні.
Ды толькі яна, здавалася б,
Незваротная туга па табе,
Кожны раз вяртаецца да мяне
З роспачным крыкам чаек.

* * *

Якое халоднае лета —
Дажджы дзень і ноч шамацяць,
Ды вочы запозненых кветак
Мне ў сэрца з даверам глядзяць.

І сам я жадаю пагрэцца
Сярод непагоднага дня
Каля закаханага сэрца,
Дзе свеціць жыцця дабрыня.

* * *

Вільготны водар позніх кветак...
Вяргінь халоднае цяпло.
Пагавары са мной пра лета,
Аб тым, што ў сэрцы адцвіло.

Лагодай верасня сагрэты,
Я не жадаю больш разлук...
Вільготны водар позніх кветак.
І настальгічны дотык рук.

* * *

Сярод бярозавай затокі
Пралесак спеюць астраўкі.
Дзень па-вясноваму высокі
Ад дотыку тваёй рукі.

Забыты крыўдныя папрокі,
Настрой пагодлівы такі...
Сярод бярозавай затокі
Пралесак спеюць астраўкі.

* * *

Гартае вечар кнігу дня.
На небе месячык пасецца...
Наўкол такая цішыня —
Чуваць размова нашых сэрцаў!

* * *

З паданняў баравых крыніц
І з песень траў саткана
Ты — чараўніца чараўніц,
Што стала мне каханай.

Цябе мне век не разгадаць,
І толькі застаецца:
Пакуль кахаецца — кахаць.
Душой кахаць і сэрцам.

## Начная прыгажуня

Як толькі дзень патухне
У бэзавым акне,
Начная прыгажуня
Прыходзіць да мяне.

Рамонкавае плацце,
Вясёлкавасць вачэй...
Ніякае багацце
Не будзе даражэй
За вобраз таямнічы,
Што ў сэрцы я нашу,
Які бязгучна кліча
Да зор маю душу.

* * *

Не трэба пра каханне.
Памаўчым,
Каб не спаліць пачуцці ў паняверцы...
Пра ўсё, што недасказана, аб тым
Раскажуць нашы вочы, вусны, сэрцы.

## Імя

Алеся. Лёгкі сум і ласку,
Пяшчотны подых збажыны,
Гаёў пралескавую казку,
Лугоў мядункавыя сны

Імя мне гэта навявае...
І недасказанае штось...
Алеся, чуеш, я кахаю,
Бо ты на белым свеце ёсць!

* * *

Сустрэў чароўную жанчыну —
І развітаўся я са сном,
Амаль забытым успамінам
Душа напоўнілася зноў.

Здаецца, стаць бы на хвіліну
Тым бесклапотным юнаком...
Сустрэў чароўную жанчыну —
І развітаўся я са сном.

## Снежаньскі эцюд

Чорны яблык на белым суку —
Напамінак мінулага лета...
Ах, як соладка пахлі ранеты,
Калі кратаў тваю я руку.

І дарыў я табе па радку
Разам з ласкай ранетаў і кветак.
Чорны яблык на белым суку —
Напамінак мінулага лета.

* * *

Я прыкаваны да пасцелі,
Распяты немаччу сваёй,
Кахання фарбы-акварэлі
Не грэюць сэрца цеплынёй,

А для цябе спяваюць дрэвы
Жывымі ноткамі лісця,
Маёвай музыкай залева
Пачуцці будзіць да жыцця.

О, як бы я жадаў пазбыцца
Хваробы путаў незямных
І асцярожна прытуліцца
Да рук асмужаных тваіх...

Напоўніць музыкаю сэрца
Тваіх пачуццяў, думак, сноў...
Мо ў ім, як птушка, ўстрапянецца
Жыцця гаючая любоў?

* * *

Там, дзе губляюцца словы,
Праз немату забыцця
Выбліснe раптам вясновы,
Звонкі прамень пачуцця.

І патаемныя сховы
Сэрца, спавітага сном,
Ён асвятляе нанова
Дзіўным кахання святлом.

## Цяпер

Пчаліны грай сярод мядовых кветак.
Адвеяныя сны былой вясны.
Як хораша, што сонечнае лета
Не ведае зімы, што мы адны
З табою адчуваем дух бадзёры
Густой травы і спелага лісця.
Як хораша цяпер спяваюць пчолы
Аб вечнасці імгненнага жыцця!

* * *

Вачыма неба абдымаю,
Рукамі кратаю траву...
Цябе, нябесную, кахаю,
Зямную — мілаю заву.
Як птах, жадаю вольнай волі,
Ды лёсу круг не разарваць:
З зямною несці ношу долі,
З нябеснай неба мілаваць.

* * *

Воўчыя ягады зла,
Словы нібы з-пад прынукі...
Вочы твае без святла,
Без цеплыні твае рукі.

Полымем цьмяным трымціць
Ліст на галінцы кляновай,
Хутка ён адляціць...
І не спатрэбяцца словы.

* * *

Не кахаеш...
Нематы
Праганю з душы аскому:
Вершаваныя лісты
Адпішу сабе самому.

Кожны ліст, як успамін,
Дзень былы з наступным лучыць...
Не крыўдую. Бог адзін
На нябёсах нас заручыць.

* * *

Гаворыш пра каханне, а сама
Раз-пораз на гадзіннік пазіраеш...
Не трэба гучных слоў. Усё дарма.
Я ведаю — мяне ты не кахаеш.
Калі пачуцці хмеляць, як напой,
Не сочыць за гадзіннікам каханне...
Апошні раз я бачуся з табой,
Хоць ты ласкава шэпчаш: «Да спаткання».

* * *

Гне долу жорсткі вецер
Пажухлую траву...
Ты засталася ў леце,
Я ж восенню жыву.
Пачуццямі былымі,
Што ў сэрцы берагу,
Прызнаннямі, якімі
Гаю сваю тугу.

* * *

Некаханне — сэрцам адчуваю.
«Некаханне»,— шэпчаш мне сама...
О, як я пакутна адвыкаю
Ад цябе, якой ужо няма.

Толькі вобраз свеціць, саграває,
І яго забыць я не магу...
Некаханне — сэрцам адчуваю,
Ды цябе пакінуць не магу.

* * *

Ноч распята зноў
На крыжы дарог.
Я б цябе знайшоў,
Калі б толькі змог.
Ды патух агонь
У душы маёй,
Бо твая далонь —
У руцэ чужой.

* * *

Цёмны месяц, цёмны шлях...

*Максім Танк*

Цёмны месяц, цёмны шлях.
Перапёлачка ў палях
Сумнай песняй лашчыць слых
Аб гадах маіх былых,
Аб спатканнях пад вярбой,
Дзе яна была са мной:
Стан, нібы напяты лук,
Пекла вуснаў, ласка рук.
Хмеліць голаў успамін...
Ноч. Бязлюддзе. Я — адзін,
З перапёлкаю ў палях.
Цёмны месяц, цёмны шлях.

* * *

У лугах згасаюць краскі
Закаханае вясны,
Паміраюць з імі казкі,
Недасказаныя сны.
Адлятаюць нашы мары
З першым выраем лісця...
І твае гаданні-чары
Больш не вернуць пачуцця.

* * *

Яшчэ душа ў мінулым блудзіць,
Жыве вясны дзівосным сном,
Але ў твайго кахання — студзень,
Завея плача пад акном.

Хачу твой срэбны смех пачуць я,
Бо не сказаў былому: «Не!»
Ды студзень выстудзіў пачуцці,
Твае пачуцці да мяне.

І я таксама адчуваю
Ў душы трывожны халадок...
Маё каханне астывае,
Хто дасць яму цяпла глыток?

* * *

Ёсць жаночыя словы
На бацькоўскай зямлі,
Што ад матчынай мовы
Прыгажосць узялі:

Васіліна, Аліма,
Вера, воля, зямля...
Слова-маці: Радзіма —
Да расінкі свая.

* * *

Разышліся мы без развітання,
Не адчуўшы толькі аднаго:
Не памерла нашае каханне,
Гэта мы памерлі для яго.

* * *

Я пайду ў краіну Адзіноты,
Дзе пануюць згода і спакой,
Дзе людскія дробныя згрызоты
Не параняць злом душы маёй.

Адпачну там ад сяброў фальшывых,
Ад жанчын, якім я давяраў.
За адно імгненне быць шчаслівым
Паўжыцця, здаецца б, я аддаў.

І сваёю восеньскай пяшчотай
Не ўтрымаеш ты мяне цяпер...
Я іду ў краіну Адзіноты,
Дзе пануюць шчырасць і давер.

* * *

Не кажыце: «Згасла, адышло,
Выпілі пакутаў келіх поўны...»
А калі б кахання не было,
Я б яго прыдумаў усё роўна.

* * *

Дзень бяжыць на рудым кані
Па ацiхлых гаях, па верасе.
Памяні мяне, памяні
Жураўлінай малітвай верасня.

Не чакай мяне, не заві
Каля вечнай крыніцы вернасці,
Лепш, як я цябе, блаславі
Жураўлінай малітвай верасня.

* * *

Дагараюць ягады каліны
На змакрэлым восеньскім кусце,
У такія сумныя хвіліны
Пра цябе я думаю часцей.

Цеплыню апошняга спаткання
Не астудзяць золкія дажджы,
Вобраз твой, прасветлены каханнем,
Застанецца ў сэрцы і ў душы.

* * *

Адпалала ў прысадах лістота,
Сівізной заінела трава.
Акруціла мяне адзінота,
Як аблуднага мужа ўдава.

Не знайшоў я ў каханні збавення
Ад нікчэмнай зямной мітусні,
Без былога цяпла і натхнення
Аднастайныя цягнуцца дні.

Мне б глыток неспазнанай пяшчоты,
Мне б куточак лясной цішыні...
Не трымай мяне больш, адзінота,
Вольны я. І табе не жаніх.

* * *

Дажджлівая, золкая восень,
Самотная бессань начэй.
Я сэрца сваё абмарозіў
На холадзе любых вачэй.

Усё засталося ў мінулым,
Сплыло, як ад вогнішча дым...
І ты, што мяне адштурхнула,
Апёкшы дыханнем сваім.

* * *

Звон апошняга трамвая.
Завірухі каламуць.
Снег ляціць — жыццё мінае,
І нічога не вярнуць.

Тая, што мяне кахала,
Знікла ў вейным малацэ,
Як сняжынка, што растала
За імгненне на шчацэ.

* * *

Ёсць словы, быццам кветкі раніцой,
Ад іх душа ў завеі расцвітае:
«Адзіная мая, каханы мой,
Я ведаю, я веру, я кахаю».

Ды ёсць таксама словы, як нажы,
Калі каханне ў сэрцах патухае:
«Нялюбая, няўдзячная, чужы,
Не ведаю, не веру, не кахаю...»

* * *

Шапоча за акном імжа
Аб тым, што я яшчэ кахаю,
Але пакутніца душа
Вас да сябе не падпускае.

Мне з Вамі можна сябраваць,
Але ніколі больш не буду
Каханне новае шукаць,
Што зведаў — век я не забуду.

* * *

Кахання светлыя імгненні
Жывуць яшчэ ў душы маёй...
Я застануся лёгкім ценем
У зорнай памяці тваёй.

Я застануся ў летуценнях,
Тваіх пачуццях, думках, снах...
Кахання дзіўныя імгненні
Святлом адбіліся ў радках.

* * *

Не гавары, што не кахаў.
Я зведаў шчасце адкрыцця:
На шэрым палатне жыцця
Твой вобраз я намаляваў.

* * *

О, як няшчадна смокчуць будні
З мяне пачуцці, сілы, кроў...
Душа пустой, сасмяглай студняй
Чакае сонечных дажджоў,
Што прабягуцца на світанні
З бадзёрым звонам на траве...
І мо забытае каханне
Ў душы змарнелай ажыве?

* * *

Зноў за вокнамі весніцца май,
Аб каханні шапоча прырода...
Не шкадуй, не прасі, не чакай —
Для цябе я памёр назаўсёды.

Я не ўбачуся болей з табой,
Не сагрэю далоні дыханнем.
Супакоіць пякельны мой боль
Лепшы доктар паэтаў — маўчанне.

* * *

Засні, каханне. Восень на двары.
Спяшаюцца да нас у госці сцюжы...
І,можа, заўтра белыя вятры
Агонь лісця ў садах маіх патушаць.

Засні, каханне. Трэба адпачыць
Ад пачуцця, што сэрца апаліла,
Зімовым сном патрэбна загаіць
Той боль, які яна не загаіла.

Засні, каханне. Ранняю вясной,
Калі жаўрук у поле пагукае,
Яе руку крану сваёй рукой —
І пачуццё былое ачуняе.

* * *

О, як імкліва дні жыцця ляцяць
Без дабрыні, без веры, без натхнення.
І немагчыма часам адшукаць
На мора бруду кроплю разумення.

Але пакуль жыве ў душы цяпло,
Якое ты мне ў золь ахвяравала,
Я не скажу пражытаму «было»,
Падзякую за тое, што кахала.

* * *

Адбалела душа
Па вясне, што з паводкай сплыла.
Адбалела душа
Па табе, што са мною была.
Адбалела душа,
Адцвіла маладой сівізной.
Адбалела душа...
Толькі ты засталася са мной.

* * *

Самалёт па ўзлётным полі
Мчыць грымотнаю стралой.
Адлятаеш...
Мо ніколі
Больш не ўбачуся з табой.

У туманным Альбіёне
Ты не згубішся, відаць...
Ды чаму так сэрца стогне,
Боль забыты не суняць?

Белы лайнер лёг на крылы
І ў густой растаў імжы.
Дамалюю вобраз мілы
Светлай фарбаю душы.

Не збыліся спадзяванні,
Мары шчасцем не ўзраслі...
Ты ў нябёсах, а каханне
Засталося на зямлі.

...Ахінуў нябёсы вечар.
Самалёта гул заціх...
Да спаткання. Да сустрэчы
Ў невядомым нам жыцці.

* * *

Дай мне, Божухна, сілы
З ёй не бачыцца больш,
Каб забыць вобраз мілы,
З сэрца выкінуць боль.

Дай мне веры ў чаканні,
Каб душу не прадаць,
Развітацца з каханнем,
Каб ізноў пакахаць.

# Змест

## Драўляны храм

## Табе каханне я падараваў

**Марозаў, З.**

M25 Вяртанне да цішыні : вершы / Змітрок Марозаў. — Мінск : Маст. літ., 2006. — 126 с.

ISBN 985-02-0856-2.

У кнігу лірыкі «Вяртанне да цішыні» паэт уключыў творы, напісаныя за некалькі апошніх гадоў. Пераважная большасць з іх была надрукавана ў перыядычных выданнях. Санеты, вершы, змешчаныя ў кнізе, складаюць пано, якое адлюстроўвае наш час, яго праблемы і клопаты, а таксама чалавека ў гэтым часе з яго перажываннямі, думкамі, надзеямі.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

Літаратурна-мастацкае выданне

**МАРОЗАЎ** Змітрок
(Дзмітрый Дзмітрыевіч)

ВЯРТАННЕ ДА ЦІШЫНІ

*Вершы*

Рэдактар *В. А. Шніп*
Мастак *Е. А. Пастушэнка*
Мастацкі рэдактар *М. Я. Шкурпіт*
Тэхнічны рэдактар *В. Ю. Серчанка*
Стылістычны рэдактар *Л. А. Дзядзюля*

Падпісана да друку 14.08.06. Фармат $70 \times 90^1/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Тып Таймс. Афсетны друк. Умоўн.-друк. арк. 4,68. Улік.-выд. арк. 4,21. Тыраж 1200 экз. Заказ 2122.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0056778 ад 17.02.2004. 220600, Мінск, праспект Пераможцаў, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Друкарня "Перамога"». 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11.